Прачытай сам і перадай другому.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 79 (4537)**

6 кастрычніка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі— чакаем!*

**АКАЯННЫЯ ДНІ**




**Нягледзячы на вадамёты, бронетранспарцёры, незлічоную колькасць узброеных да зубоў амапаўцаў і іншых сілавікоў, тысячы і тысячы беларусаў выйшлі ў мінулую нядзелю на вуліцы Мінска, каб выказаць пратэст уладзе, якая скрала іх галасы падчас прэзідэнцкіх выбараў, якая кінула ў турмы нямала людзей толькі за тое, што яны асмеліліся змагацца за СВАБОДУ і ПРАЎДУ.**

*Ужо амаль два месяцы народ мірнымі спосабамі адстойвае сваё права на дэмакратыю, бароніць свой гонар і чалавечую годнасць.*

**АКТУАЛИИ**



Светлана КАЛИНКИНА

# Александр-разрушитель

Белорусский агитпроп исправно рапортует о том, что по стране проходят акции «За мир» – в поддержку Александра Лукашенко. Не вдаваясь в особенности организации этих «демонстраций пленных», хочу обратить внимание на важный аспект: это та самая борьба за мир, после которой не останется камня на камне. Потому что чем дольше Александр Лукашенко остается на своем посту, тем большие разрушения он после себя оставит.

В минувшие выходные президент Украины Владимир Зеленский подписал указ «О мерах по привлечению ИТ-специалистов из Беларуси». Подобные документы готовят Литва, Польша, Латвия, Эстония. Россия также объявила, что готова принять у себя белорусские ИТ-компании на самых выгодных условиях.

Согласно последнему опубликованному опросу, проведенному среди айтишников, только 16 процентов компаний не рассматривают вопрос релокации. Остальные либо уже начали переезд, либо готовят его на случай ухудшения ситуации – то есть на случай, если Александр Лукашенко останется у власти, запустив репрессивный механизм подавления протестов.

Это что значит? Это значит, что целая отрасль белорусской экономики будет разрушена. Будет уничтожена самая передовая, самая перспективная отрасль! Та, которая, в отличие от белорусских тракторов, станков или телевизоров, конкурентоспособна во всем мире. Та, на которую делали ставку во всех планах стратегического развития страны.

Но вместо Парка высоких технологий, который мы имели, Беларусь будет иметь парки выгула пенсионеров с омоновцами по периметру. Потому что, если уедет перспективная молодежь, просто некому будет зарабатывать на пенсии старикам, многие из которых сегодня, как ни странно, ратуют за Лукашенко и за стабильность в его понятии.

Из того, что уже разрушено, могу также назвать правовую систему. Она даже не разрушена, она просто взорвана.

Ненаказанный садизм, демонстративное беззаконие, неспособность судов и прокуратуры защитить права людей очевидны всем. Женщину, стянувшую балаклаву с омоновца, волокут в изолятор, заводят уголовное дело и грозят посадить на пять лет, хотя этот боец цел-невредим и просто испугался, что его лицо попадет на видеокадры. Но в то же время не заведено НИ ОДНОГО (!) уголовного дела по фактам пыток, издевательств и даже убийств мирных людей этими самыми омоновцами или им подобными.

Это значит, что в стране нет закона, нет права, нет правоохранительной системы. Просто нет. На данный момент уже нет. А значит, ни у кого нет и не может быть доверия к такому государству, к тем, кто удерживает власть фактически на штыках. Только последний дурак может поверить в те цифры, которые озвучила бессменная Ермошина после голосования на президентских выборах.

На наших глазах рушатся балансы внешней политики: объявив дипломатическую войну Западу, мы хороним ее главный принцип – многовекторность.

На наших глазах рушится имидж власти – из народной она становится антинародной.

На наших глазах дискредитировала себя белорусская армия, подразделения которой первую боевую операцию провели против собственного народа. И тем самым вписали позорнейшую страницу в свою историю.

На наших глазах рушится все то хорошее, что создавалось в Беларуси в последние десятилетия. Даже мир – тот самый мир в обществе, которым мы так гордились, – уже не кажется столь однозначным. Потому что не может быть мира в стране, поделенной на надзирателей и заключенных, ведь одна часть обязательно будет ненавидеть другую.

«Ситуация сложная, – говорят многие. – У нее нет простого решения».

Но ведь это неправда.

Выход из ситуации, в которой оказалась Беларусь, очень прост.

Не надо менять ни Конституцию, ни законы. Не надо ни протестовать, ни митинговать. Не надо переводить на круглосуточный режим работы милицию, армию, спецслужбы. Не надо воевать и разрушать. Нужно просто поменять состав Центризбиркома и составы избирательных комиссий всех уровней и провести новые честные президентские выборы. Вот и всё! Простой, понятный и законный путь к миру и спокойствию в обществе!

Именно его предлагают Александру Лукашенко и президент Франции Эманнюэль Макрон, и канцлер Германии Ангела Меркель, и президент Литвы Гитанас Науседа, и президент Польши Анджей Дуда, и президент Украины Владимир Зеленский, и Координационный совет оппозиции, и сотни тысяч протестующих белорусов, которые уже два месяца выходят на беспрецедентные по масштабу акции протеста. Но Александр Лукашенко готов на все – и воевать, и разрушать, и сделать врагами белорусов из разных политических лагерей. Не готов он только к одному – к проведению новых выборов.

А значит, причина нынешнего белорусского кризиса только в том, что себя в должности президента Лукашенко любит значительно больше, чем страну, которая 26 лет назад поверила и доверилась ему. Ради сохранения власти он сейчас просто насилует, унижает и разрушает эту страну. Те, кто выходит на митинги «За мир!» в поддержку Лукашенко, обязательно помните об этом!
















РЭЗАЛЮЦЫЯ СОЙМА ПАРТЫІ БНФ

*На пасяджэнні Сойма Партыі БНФ 3 кастрычніка 2020 года была абмеркавана грамадска-палітычная сітуацыя, якая склалася ў краіне пасля заканчэння выбарчай кампаніі ды разгортвання агульнанацыянальнага пратэсту грамадзян супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў з наступным гвалтоўным падаўленнем гэтых пратэстаў уладамі. Кіруючы орган партыі прыняў рэзалюцыю, у якой зацверджана дарожная карта першачарговых крокаў дзеля выхаду з крызісу і пачатку агульнанацыянальнага дыялогу.*

# Дарожная карта дзеля выхаду з крызісу: 10 крокаў да нацыянальнага дыялогу

Цягам апошніх двух месяцаў у Беларусі адбыліся драматычныя падзеі, выкліканыя сутыкненнем грамадства і аўтарытарнай улады. Справядлівае абурэнне грамадзян чарговым правядзеннем выбараў несумленным і недэмакратычным спосабам улады спрабуюць задушыць шляхам буйнамаштабных рэпрэсій. Іх памер і інтэнсіўнасць, а таксама поўнае ігнараванне любых нормаў права дзеля далейшага ўтрымання ўлады фактычна маюць прыкметы неабвешчанага надзвычайнага становішча: рэпрэсіўным і карным органам дазволены любыя дзеянні, для іх зняты ўсе прававыя абмежаванні ў справе ажыццяўлення рэпрэсій супраць палітычных апанентаў і грамадзянскай супольнасці.

У выніку краіна апынулася ў глыбокім палітычным крызісе, які паставіў дзяржаву на мяжу існавання. Адбываецца эскалацыя рэпрэсій, зварочванне сувязяў са знешнім светам, перадача ў Маскву асноватворных дзяржаўных функцый у галіне абароны і правапарадку, інфармацыйнай і знешняй палітыкі, а ў перспектыве – і ўнутранай палітыкі (у тым ліку праз аднаўленне на парадку дня гэтак званых “дарожных карт паглыбленай інтэграцыі”, якія прадугледжваюць паступовую здачу суверэнітэту Беларусі на карысць Масквы). Дзеянні дзяржслужбоўцаў прывялі да ўвядзення санкцый, якія ставяць нашу краіну ў стан дзяржавы-ізгоя на міжнароднай арэне. У сукупнасці гэткі падрыў суверэнітэта пагражае поўным падпарадкаваннем краіны і пераходу яе ў статус фактычнага пратэктарата Расіі.

Праз гвалтоўныя дзеянні і шэраг небяспечных крокаў у галіне ўнутранай і знешняй палітыкі цяперашніх улад складваецца сітуацыя, якая ёсць смяротна небяспечнай для самога існавання Рэспублікі Беларусь як незалежнай дзяржавы беларускага народа, для саміх падмуркаў беларускай дзяржаўнасці.

Дэмантаж тых інстытутаў, на якіх грунтуецца беларуская дзяржаўнасць, недапушчальны. Адказнасць за захаванне нацыянальнай дзяржавы палягае на ўсіх беларусах, і асабліва на дзеючых палітыках. Нашчадкі не прабачаць нам, калі мы паставімся безадказна да гэтага святога абавязку і страцім дзяржаву.

Таму цяперашні крызіс патрабуе неадкладных захадаў дзеля дээскалацыі канфлікту і пераходу да мірнага агульнанацыянальнага дыялогу.

У якасці першачарговых крокаў, якія зрабілі б такі дыялог магчымым, Партыя БНФ прапануе наступную паслядоўнасць крокаў, выкладзеных у выглядзе “дарожнай карты”:

**Крок 1.** Вызваленне ўсіх асоб, якія прызнаны беларускімі праваабаронцамі як палітычныя вязні, у тым ліку ўдзельнікаў мінулай выбарчай кампаніі з ліку сябраў ініцыятыўных груп і штабоў кандыдатаў.

**Крок 2.** Спыненне палітычна матываваных крымінальных спраў, у тым ліку датычна сябраў Каардынацыйнай рады, якая была створаная на прапанову Святланы Ціханоўскай і дзейнасць якой знаходзіцца пад абаронай канстытуцыйнага права грамадзян на свабоду аб’яднанняў.

**Крок 3.** Спыненне масавых і нематываваных затрыманняў і практыкі прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці ўдзельнікаў мірных масавых акцый шляхам надання прамога дзеяння нормам Канстытуцыі пра грамадзянскія правы, у тым ліку права на свабоду мірных сходаў.

**Крок 4.** Фармуляванне праваахоўнымі органамі і палітычным кіраўніцтвам краіны ясных і недвухсэнсоўных гарантый бяспекі на выпадак вяртання на тэрыторыю краіны тых беларусаў, якія былі выштурхнуты з краіны альбо былі вымушаныя хавацца ў замежжы з прычыны апасенняў за сваё жыццё і здароўе.

**Крок 5.** Спыненне ўсіх форм пераследу і незаконных абмежаванняў прафесійнай дзейнасці журналістаў і сродкаў масавай інфармацыі (уключна з неадкладным аднаўленнем акрэдытацыі журналістаў замежных СМІ і адмовай ад блакіроўкі вэб-сайтаў), спыненне антынацыянальнай прапаганды і дыскрэдытацыі пратэстоўцаў і беларускай сімволікі ў дзяржаўных медыях, выдаленне з іх раней запрошаных расійскіх прапагандыстаў.

**Крок 6.** Аднаўленне на працы ў дзяржаўных органах, прадпрыемствах і арганізацыях усіх людзей, якія былі звольнены ў сувязі з іх палітычнымі перакананнямі альбо на падставе іх удзелу ў мірных акцыях пратэсту.

**Крок 7**. Стварэнне супольнай парламенцка-грамадскай камісіі з удзелам праваабарончых арганізацый дзеля вывучэння абставін прымянення гвалту падчас падзей жніўня-верасня 2020 года і з наступнай перадачай назапашаных матэрыялаў у пракуратуру і следчыя органы дзеля прыцягнення да адказнасці вінаватых у катаваннях і забойствах.

**Крок 8.** Забеспячэнне доступу экспертаў ААН да маніторынгу ўмоў утрымання ў месцах няволі і супрацоўніцтва дзяржаўных органаў з ужо прызначанымі структурамі Савета па правах чалавека ААН і АБСЕ дзеля аб’ектыўнага вывучэння і дакументавання падзей жніўня-верасня 2020 года.

**Крок 9.** Правядзенне з удзелам Палаты прадстаўнікоў і іншых дзяржаўных органаў, палітычных партый нарады дзеля выпрацоўкі фармату, графіка правядзення, кола ўдзельнікаў і магчымых пасярэднікаў, а таксама парадку дня агульнанацыянальнага дыялогу.

**Крок 10.** Рэформа выбарчага заканадаўства з улікам прапаноў місій назірання АБСЕ на выбарах 2015–2019 гадоў і прапаноў нацыянальных назіральнікаў кампаніі “Права выбару” з наступным правядзеннем выбараў усіх узроўняў па новых правілах і з новым складам выбарчых камісій.

Гэтыя крокі дазволяць перадолець найбольш значныя негатыўныя наступствы крызісу, спыняць раскол грамадства і прыпыняць спаўзанне краіны ў бездань, дадуць магчымасць распачаць сапраўдны агульнанацыянальны дыялог, а не яго імітацыю.

Толькі сапраўдны агульнанацыянальны дыялог ў атмасферы вольнай ад гвалту і прымусу можа стаць пляцоўкай для абмеркавання зместу і фармату правядзення будучай канстытуцыйнай рэформы, пра неабходнасць якой кажуць усе бакі палітычнага канфлікту і правядзенне якой можа быць распачата толькі пасля рэформы выбарчага заканадаўства.

Толькі беларускі народ мае права вырашальнага голасу ў гэтым пытанні.

Партыя БНФ заклікае ўсе палітычныя сілы і дзяржаўныя органы адчуць супольную адказнасць за лёс нацыі і дзяржавы, праявіць грамадзянскую спеласць і неадкладна распачаць рэалізацыю пазначанай паслядоўнасці крокаў дзеля найхутчэйшай стабілізацыі абстаноўкі ў краіне. У адваротным выпадку краіну ў хуткім часе чакае новы віток эканамічнага крызісу, які можа супасць з “другой хваляй” пандэміі COVID-19, што можа пагражаць калапсам дзяржаўнай сістэмы Рэспублікі Беларусь.

*(Рэзалюцыя зацверджана пастановай Сойма Партыі БНФ 3 кастрычніка 2020 года.)*

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# ОМОН в театр ходит… по нужде

На днях омоновцы заявились в столичный Музыкальный театр. По-хозяйски, не раздеваясь, то есть в полной черной амуниции, еще и с балаклавами на лицах. Таких посетителей театр, конечно, не видывал. Разве что, помнится, когда в Москве, на Дубровке, террористы захватили заложников на мюзикле «Норд-Ост», то именно они были в масках с прорезями для глаз. Все знают, какими жертвами обернулось то их «посещение»… Поэтому у многих зрителей нашего Музыкального, думаю, сердце в тот момент ушло в пятки. Тем более что был антракт, публика с детьми (!) вышла в фойе, а здесь появляется этот отряд…

У людей в черном в нашей стране теперь плохая слава. Почти никто не видит в них защитников, они для подавляющей части населения – карательное подразделение. Жестокий механизм для подавления мирных протестов. Но что им было нужно на утреннем детском спектакле «Мэри Поппинс»? И почему люди в форме вообще имеют право без вызова заходить в учреждение культуры и наводить страх на зрителей? Или в стране объявлено военное положение, и теперь именно военизированные отряды – хозяева в нашей стране? Хотят – бьют стекла в частном кафе, хотят – открывают ногой дверь в приватное жилье, хотят – в любое время дефилируют в форме по театральному фойе. Спасибо, что не по сцене во время действия.

Кто-то решился сделать фото и выложил в социальную сеть «Фейсбук»: на нем видно, как зрители Музыкального театра прижались к стенкам, когда эти вороны спускаются по лестнице. Один из посетителей все-таки отправил электронное письмо директору театра: что за «спектакль» был в стенах вверенного ему учреждения культуры во время антракта? Его заранее поставили в известность о визите? Или, может быть, администрация сама вызвала ОМОН?

Оцените тонкий юмор директора С.Пукита: омоновцы (или кто там сейчас у нас в этой форме) зашли в Музыкальный театр… пописать. Ну, Сергей Александрович, конечно, выразился в ответном письме привычным сухим канцеляритом – «воспользоваться уборной», что никак не влияет на смысл. Омоновцы пришли в театр справить нужду. Причина анекдотичная, согласитесь. Такие вдруг стали нежные у нас служаки. То, не двигаясь, стоят в оцеплении по восемь часов кряду, а тут вдруг коллективно бросились по нужде и не куда-нибудь, а в Театр! Еще бы, там атмосфера, интерьер… Кстати, рядом с Музыкальным стоит Дом правительства, там интерьеры не хуже. Почему они туда не зашли?

Конечно, физиологические потребности человека не может отменить ни революция, ни даже (о, ужас!) указ Лукашенко. И взрослые люди обычно стараются предусмотреть все неожиданности перед выходом из дома. Но омоновцам, что называется, приперло… Причем сразу группе. И все это было бы смешно, когда бы не было так гадко. Так возмутительно. Так безобразно. Потому что наши органы (правоохранительными их назвать уже, по-моему, нельзя) не видят берегов. Команда «фас», данная сверху, сделала их чуть ли не животными, у них теперь нет морально-нравственных ограничений: им разрешено бить, топтать, унижать своих сограждан, а по нужде ходить, конечно, именно в театральный туалет. Слава Богу, что пока не используют для этого интимного акта антикварные вазы для цветов, расставленные там в фойе, – история ведь помнит и такие примеры упоения собственной властью человека с ружьем.

Хотя подозреваю, что на самом деле все гораздо хуже: громилы в балаклавах проверяли театр на предмет «беспорядков» – день был воскресный, как раз накануне шествия. Власти тупо и прямолинейно искали «нарушителей». Им кажется, что есть четкий распорядок нашей борьбы за свободную Беларусь. Конечно, воскресные шествия идут по распорядку. Но общее протестное настроение – нет и еще раз нет! Удивительно, как власть не чувствует свой народ… Лозунг «Жыве Беларусь!» произносится не по графику, это искренние порывы души большей части граждан Беларуси. Именно поэтому красно-белые флаги появляются в столице в самых неожиданных местах и в самое неожиданное время. Все происходит спонтанно, искренне, и поэтому так прекрасно. После концерта Камерного оркестра в Белгосфилармонии музыканты со сцены махают зрителям флажками с нашей исторической символикой, в Большом театре певцы на поклонах показывают «викторию», а в фойе исполняют религиозный гимн «Магутны Божа». В Национальной библиотеке вдруг звучат белорусские песни, которые исполняют просто посетители, а на Главпочтамте несутся к куполу самые популярные теперь строки песни «Разбуры муры турмы…».

Идет летучая народная революция. Каждый день, каждый час. А власть рассылает патрули по театральным туалетам. Ну, с облегчением вас, омоновцы! Физиологически, конечно, вы все еще люди.

СОЛИДАРНОСТЬ

# Колесникову – на свободу!

*«В ее действиях отсутствует состав преступления», – считают защитники Колесниковой.*

5 октября адвокаты подали ходатайство в главное следственное управление Следственного комитета Республики Беларусь о прекращении уголовного преследования Марии Колесниковой.

Адвокаты обращают внимание на то, что *«все выступления и заявления Марии находятся в свободном доступе в сети Интернет, и, проанализировав их, можно убедиться в том, что ни одно из них не содержит призывов к действиям, направленным на причинение вреда национальной безопасности Республики Беларусь».*

*«А в содержании публичных выступлений и заявлений Мария делает акцент на множественные и неопровержимые факты грубейшего нарушения конституционных прав и свобод граждан Республики Беларусь иными лицами как до, так и после выборов Президента Республики Беларусь, что как раз и составляет угрозу национальной безопасности Республики Беларусь,* – говорят адвокаты Колесниковой. – *Таким образом, действия Марии направлены не на причинение, а на предотвращение вреда национальной безопасности Республики Беларусь. Кроме того, обвинение носит общий, неконкретный характер, что является нарушением уголовно-процессуального законодательства, затрудняет право Марии на защиту».*

Напомним, что Марию Колесникову задержали 8 сентября. Под стражей она останется до ноября – мера пресечения при задержании избрана на два месяца. Ее обвиняют в попытке захвата власти.

**Вера ВИР.**

ПИСЬМА ИЗ ТЮРЬМЫ

## «Любовь сильнее страха!»

*Сестра Марии Колесниковой в конце сентября начала получать от нее письма.*

«Маша пишет, что ей долго не передавали письма, но теперь мы точно знаем, что письма она получает, – *говорит Татьяна Хомич*. – Много писем! Например, в день может быть 50 писем. И теперь у нее заканчиваются бумага и конверты. Поэтому, пожалуйста, если вы ей пишете, то вкладывайте конверт с маркой для обратного письма.

У Маши работает радиоточка, просыпается в 6.00 с гимном. Маша наконец-то может заказывать книги из местной библиотеки и теперь активно читает…

И, как всегда, Мария передает привет всем: «Точно всё будет хорошо! Только вперед! Любовь – сильнее страха!»

Кстати, написать письмо Марии Колесниковой можно по адресу: ИУ «Тюрьма №8 г.Жодино» 222160, Минская область, г.Жодино, ул.Советская, 22А.

ВІНШУЕМ!

## Беларускаму парталу TUT.BY на 20-годдзе

*Што пажадаць табе,*
*TUT.BY?*
*Якую даць параду?*
*СБ, БТ не саступай,*
*Адстойваючы праўду!*
*Навіны з жару заграбай,*
*Будзь там і тут*
*найпершым,*
*І ўвесь народ цябе,TUT.BY,*
*Прызнае самым лепшым!*
*У гушчыню падзей ступай,*
*Паддаўшы ўсім ахвоты.*
*Хай не палохаюць TUT.BY*
*Дручкі і вадамёты!*
*І мову больш упадабай,*
*Бо ў ёй жыццё пульсуе,*
*І за цябе рублём, TUT.BY,*
*Народ прагаласуе!*

**Народавольцы.**

ЖИЗНЬ КАК ОНА ЕСТЬ

Сергей ПРОТАСОВИЦКИЙ, доцент Белгосуниверситета:

# «Мой оклад – 353 рубля…»

*Известный адвокат и преподаватель Белгосуниверситета Сергей Протасовицкий на днях обнародовал свой расчетный листок за сентябрь. Оклад кандидата юридических наук, работающего на ставку, – в эквиваленте около 140 долларов.*

*«Народная Воля» поинтересовалась, какую сумму на руки получил доцент Протасовицкий за сентябрь.*



**– Сергей Петрович, неужели эта сумма – весь ваш заработок?**

– Нет, это лишь оклад. Общая сумма, которую я получил на руки, – 879 рублей 90 копеек. Это вместе с доплатой за звание доцента (85 рублей 10 копеек), надбавкой за ученую степень кандидата юридических наук (170 рублей 20 копеек), премией (17 рублей 67 копеек) и некоторыми другими выплатами.

**– Все равно зарплата доцента кафедры как-то далека от обещанных 500 условных единиц.**

– 339 долларов по сегодняшнему курсу.

**– На эти деньги надо оплатить коммуналку, заправить машину бензином, купить еды. Это самый минимум, и уже концы с концами с трудом сходятся!**

– Если нет других источников доходов, конечно, выжить сложно. У тех, кто работает на юридическом факультете, они, возможно, есть. А вот преподавателям, скажем, биологического или географического факультета сложно найти какую-то предпринимательскую деятельность по специальности. Поэтому, да, прожить на такие деньги сложно.

**– Но вы – практикующий адвокат, причем успешный.**

– Да, я не бедствую. И не жалуюсь. А свой расчетный выложил в соцсеть, потому что хотелось показать размер основного компонента оплаты труда. Поэтому я обнародовал только «шапку», где указан оклад. Мне за ученую степень и звание доплачивают, а у некоторых их нет. Значит, мои коллеги могут получать еще меньше.

Я сам вообще редко заглядывал в расчетные листки, а тут пришлось делать коекакую отчетность, и обратил внимание на то, из чего складывается моя зарплата.

Кто-то со стороны может сказать: мол, не нравится – найди другую работу с хорошей зарплатой. Но я не хочу уходить, мне нравится моя работа.

**– Сегодня от некоторых преподавателей приходится слышать: мол, как преподавать право, когда такое беззаконие в стране творится?**

– Сегодня все хорошо понимают, что происходит. И даже студенты отлично запомнили фразу и цитировали: «*Иногда не до законов*». Я преподаю частное право, и сейчас мы изучаем его скорее на будущее. Все равно рано или поздно все изменится, и нам придется жить по праву.

***ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА***

*Сергей Протасовицкий – доцент кафедры гражданского права юридического факультета Белорусского государственного университета, кандидат юридических наук. Преподает гражданское право.*

*Подготовил к защите диссертацию на соискание ученой степени доктора юридических наук.*

**Марина КОКТЫШ.**

ЕСТЬ ВОПРОС!

# Был ли санкционирован автопробег «За единую Беларусь»?

*В минувшую субботу приверженцы Александра Лукашенко провели автопробег – от Орши до Бреста.*

*«Автоколонна была в движении больше 6 часов, проехав от границы с Россией до Брестской крепости более 600 километров», – сообщали организаторы мероприятия в телеграм-канале.*

*В Брестской крепости для участников было организовано горячее питание.*

*«Народная Воля» поинтересовалась, подавали ли организаторы заявки на это массовое мероприятие и кто покрывал расходы.*

*«На рассвете колонна автомобилей с государственными флагами начнет движение от границы с Российской Федерацией*, – так анонсировали пробег. – *Маршрут пролегает по самой значимой магистрали на территории Беларуси, соединяющей Европейский Союз и Россию, – по трассе М1/Е30. Особенностью этого пробега станет не только большая длина и значимость маршрута, но и то, что к основной колонне на всем протяжении пробега будут присоединяться колонны автомобилей из всех близлежащих городов! Финальной точкой пробега станут западные ворота Беларуси – Брестская крепость-герой, место, где слова о патриотизме и верности своей Родине имеют особый смысл. Завершится автопробег экскурсией по Брестской крепости и неформальным общением участников со всей Беларуси».*

Удивительно, но организаторы с ходу не смогли ответить на простой вопрос: кто санкционировал мероприятие? Сказали, что документы на согласование массового мероприятия подавали в Минске и в Бресте, однако, в какие именно структуры – внятного ответа не последовало. Просили перезвонить через пару часов, потому что с ходу дать ответ на этот вопрос якобы невозможно, нужно уточнять детали.

Один из организаторов автопробега – постоянный участник провластных митингов, владелец ООО «Быстрые автомобильные мойки», заместитель председателя Федерации шахмат **Николай Зарубицкий** – разговаривать с «Народной Волей» отказался. Он потребовал предоставить ему документы о регистрации газеты «Народная Воля», а затем и вовсе пропал со связи.

В пресс-службе Минского горисполкома «Народной Воле» сказали, что к ним документы о проведении данного массового мероприятия не поступали: *«Это было не городское, а республиканское мероприятие, они стартовали из Орши, значит, они подавали документы в какое-то другое ведомство».*

А вот в Брестском горисполкоме на вопрос «Народной Воли» ответ дали практически сразу.

«*К нам поступило соответствующее обращение о проведении автопробега*, – сказал начальник управления идеологической работы и по делам молодежи **Геннадий Иванович Иванчин**. – *Оно пришло заранее, в установленные законом сроки, так что мероприятие было согласовано. А что касается горячего питания, то его оплачивал не госбюджет, а сами организаторы договаривались и платили».*

Если всё действительно было оформлено по закону, то не понятно, почему любой из организаторов автопробега не может сразу дать четкий ответ на простой вопрос, было ли согласовано мероприятие с местными властями. И почему бы, анонсируя автопробег в поддержку А.Лукашенко, сразу не выкладывать все соответствующие документы о том, что мероприятие санкционировано?

Понятно, организованный властью автопробег – чисто пропагандистская акция. И, похоже, она рассчитана только на тех, кто смотрит БТ.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
6 КАСТРЫЧНІКА 2020 г.

АСОБА

## Зоя БЕЛАХВОСЦІК:

# «Засталося адабраць у мяне званне народнай артысткі»

*Нацыянальны драматычны тэатр імя Янкі Купалы закрыты, спектаклі іграць няма каму. 100-гадовы юбілей, да якога некалькі гадоў рыхтаваўся і амаль падрыхтаваўся ўвесь тэатральны калектыў, пахаваны бязглуздым рашэннем Міністэрства культуры. Але звальненнем з тэатра рэпрэсіі для некаторых купалаўцаў не закончыліся. Днямі стала вядома, што зорку Купалаўскага Зою БЕЛАХВОСЦІК звольнілі і з Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе яна выхоўвала будучых акцёраў. Сёння народная артыстка – госцяй “Народнай Волі”.*



**– Зоя Валянцінаўна, ёсць такі вядомы выраз: “Страціў не я Афіны, хутчэй – Афіны мяне”. Я спачуваю Акадэміі мастацтваў, якая пазбавілася такога тытулаванага педагога. Скажыце, вы чакалі, што рэпрэсіі супраць вас працягнуцца?**

– Амаль на 100 адсоткаў я была ўпэўнена, што працягнуцца. І ўсё ж мне здавалася, што Акадэмія мастацтваў – інстытуцыя, дзе маюць уяўленне пра гуманізм. Бо ў дадзенай сітуацыі не столькі пра мяне трэба было думаць, колькі пра студэнтаў, пра іх далейшы лёс. Бо я вяла чацвёрты, выпускны, курс. Набраў яго Мікалай Кірычэнка, які праз год памёр. Я падхапіла студэнтаў на другім курсе. У тым жа навучальным годзе ў Беларусі здарыліся Еўрапейскія гульні, з-за якіх мы скончылі вучыцца на два месяцы раней. На трэцім курсе з-за каранавіруса ў нас зноў мінус два з паловай месяцы вучобы. І вось сёння такое... Няшчасныя студэнты, якім не даюць нармальна давучыцца.

**– Ну і ў вас адбіраюць магчымасць зарабіць на кавалак хлеба.**

– Пра грошы, якія я атрымлівала ў акадэміі, нават не варта гаварыць. Гэта проста насмешка над майстрамі, над прафесіяналамі.

**– Раскажыце, як у нас звальняюць з працы народных артыстаў.**

– У аддзеле кадраў, куды мы кожны год падаём неабходныя паперы, начальнік, не падняўшы галавы, працадзіў скрозь зубы: “Толькі пасля дазволу рэктара, вам паведамяць”. Праз пару дзён мне пазваніў загадчык кафедры акцёрскага майстэрства, мой калега і сябра Вячаслаў Паўлюць і так уздыхнуў у слухаўку, што я адразу сказала: “Слава, не прадаўжай, я ўсё зразумела”. Я ўдзячна яму – на маё месца ён знайшоў выдатнага педагога – Аляксандра Гарцуева.

**– Дык гэта ж ваш муж.**

– Так, муж, але і цудоўны рэжысёр, і педагог. Мы сваіх не кідаем. Таму хачу сказаць шчыра і адкрыта: я буду ажыццяўляць партызанскае мастацкае кіраўніцтва над сваім курсам.

**– Вернемся да вашага звальнення з Купалаўскага тэатра. І адтуль жа не кожны дзень народныя артысткі сыходзяць. Вас не спрабавалі ўтрымаць, неяк угаварыць?**

– Не. Прызнацца, мне і не хацелася ніякіх угавораў. Думаю, калі б былы чыноўнік і новапрызначаны дырэктар тэатра Валерый Грамада захацеў, мы паразмаўлялі б. Але пра што? У нашай краіне ўсё вырашае адзін чалавек. Міністры і ўсе астатнія чыноўнікі – ніхто і нішто, яны проста выканаўцы. І той чалавек ужо выказаўся пра купалаўцаў: маўляў, хай едуць на гастролі хоць куды, хоць у Еўропу, хоць у ЗША, і калі ім там долар заплацяць, хай яны паміж сабой падзеляць... Гэта такая непавага, такое хамства!..

**– Два гады таму з рук гэтага чалавека, Аляксандра Лукашэнкі, вы атрымалі званне народнай артысткі. Магчыма, ён лічыць, што ўсе раздадзеныя ім званні, прэміі і ордэны абавязваюць узнагароджаных да нейкай пажыццёвай удзячнасці?**

– Магчыма. Але я так не лічу, бо тыя ўзнагароды не з яго ўласнай кішэні. Ёсць дзяржава, а ёсць улада, гэта розныя рэчы. Паслухаць яго, дык усе таленты ім асабіста народжаны, ускормлены і аблашчаны. Усё тут – яго. Як у вядомай казцы “Кот у ботах”: “Чые гэта палі і лясы?” – “Маркіза, маркіза, маркіза Карабаса”. Відаць, і нас хтосьці лічыў прыгоннымі акцёрамі. Але мы не прыгонныя! Некаторыя мае калегі паадмаўляліся ад дзяржаўных стыпендый, грамат… А я не буду! Я хацела б, каб званне ў мяне – адабралі. Гэта было б вельмі паказальна. “Белахвосцік! А ну аддавай нам званне назад! Ты больш не народная!” Хай паспрабуюць. Хоць, хачу гэта падкрэсліць, я ніколі не прасіла ніякіх узнагарод, ніякіх званняў.

**– Як вы ставіцеся да тых акцёраў, якія засталіся ў Купалаўскім. Скажам, да Генадзя Аўсяннікава, Тамары Міронавай… Вось сустрэліся вы на вуліцы і – што?**

– Па натуры я максімалістка. Я б не спынілася і прайшла міма.

**– Пагадзіцеся, гэта трохі жарсткавата з вашага боку, улічваючы іх заслугі, іх узрост.**

– Прычым тут узрост? Калі б мой тата, народны артыст Беларусі Валянцін Белахвосцік быў жывы, ён сышоў бы разам з намі. Я ў гэтым проста ўпэўнена! Для яго было страшным непаразуменнем усё, што робіцца гэтай уладай. Ён ніколі не галасаваў за *яго*. А якім болем адгукалася ў бацькавай душы ўсё, што ўлада вытварала з Васілём Быкавым! Пра гэта засталіся запісы ў дзённіку… Вялікі пісьменнік і найсумленнейшы чалавек Быкаў быў вымушаны з’ехаць з Беларусі і вярнуўся на радзіму паміраць. Як такое можна было дапусціць?.. А тыя, хто застаўся ў Купалаўскім, на апошнім сходзе так абураліся – намі! Ды як мы смеем так выступаць? Нам проста ў вочы было сказана: “Вы развальваеце тэатр”.

**– Вы гэтыя словы чулі ад Генадзя Сцяпанавіча Аўсяннікава?**

– Прыкладна такія. Выдатны акцёр, цудоўны партнёр на сцэне, але ў жыцці ён такі. Ён можа не падтрымаць кагосьці, проста ціха прамаўчаць... А адна артыстка пачала мяне сароміць: “Как тебе не стыдно! Был бы жив твой дедушка, он не пошел бы за этой толпой…”

**– А ваш дзядуля – народны артыст СССР і БССР Глеб Глебаў, які праслужыў у Купалаўскім больш за сорак гадоў.**

– Так. І я не вытрымала: “Не расказвайце мне пра майго дзядулю. Так, ён быў народным артыстам Савецкага Саюза, двойчы лаўрэатам Сталінскай прэміі, але ніколі не быў у партыі!” Як ён умудрыўся, я не ведаю. Але я ведаю, хто быў яго зяцем, – Антон Ба́ліцкі, наркам асветы, расстраляны ў 1937-м. Засталося дзіця, якое выхоўвалі дзядуля з бабуляй. Я цвёрда ведаю, што і дзядуля пайшоў бы разам з намі! “Мы развалілі тэатр… мы натоўп...” Як можна так называць маладых акцёраў – таленавітых, годных, прыгожых, разумных, адукаваных, думаючых?! Я імі ганаруся і думаю: Божа, дзякуй табе, што я дажыла і ўбачыла гэту незвычайную моладзь – сапраўдных беларусаў-адраджэнцаў! У мяне проста слёзы на вачах…

**– Адзін мой знаёмы тэатрал папракнуў акцёраў, што сышлі з Купалаўскага. Маўляў, не варта было сыходзіць, са сцэны таксама можна многае сказаць. На што я яму адказаў: “Вось уяві сябе купалаўцам. Выходзіш ты на сцэну, а ў зале – дзве роты амапаўцаў, можа, нават у балаклавах, да якіх яны так прывыклі. Культпаход у тэатр… І што б ты рабіў?” І тэатрал прамаўчаў.**

– Мы разглядалі падобныя прапановы. Вось давайце выходзіць і на знак пратэсту не іграць спектакль. Ці – замест спектакля чытаць адпаведныя сітуацыі вершы. Але нам ніхто не даў бы гэтага рабіць, раней ці пазней нас бы звольнілі! Мы думалі і пра тое, каб ставіць спектаклі, у нечым сугучныя з сённяшнім днём, – “Дзве душы”, “Нямы”. Але і на гэта нам ніхто не даў дазволу.

**– Дарэчы, у кастрычніцкай афішы стаялі “Тутэйшыя”. У сённяшняй сітуацыі я не ўяўляю іх на сцэне.**

– Да прэзідэнцкіх выбараў я ўяўляла, і нам усім было цікава, як новая пастаноўка Мікалая Пінігіна будзе ўспрынята, як яна адзавецца на дзейнасці рэжысёра, трупы, на ўсіх нас. У новай пастаноўцы занята мая дачка Валянціна, яна выконвае ролю Аленкі, якую некалі выконвала я.

**– Дык ці пабачым мы новых “Тутэйшых” на нейкай іншай пляцоўцы?**

– Мы працуем, больш пакуль я нічога вам не скажу… Тое, што адбылося з Купалаўскім, гэта не сітуацыя з тэатрам, гэта выбар паміж дабром і злом. Пралягла мяжа – і выбірай, на якім ты баку, сярэдзіны тут няма! Некаторыя акцёры нам на вуха шапталі: “Мы таксама супраць гвалту, але…” Якое можа быць “але”? Купалаўскі тэатр – гэта не забаўка! Гэта не сцэна, дзе круцяць, прабачце, попамі... Мы паказвалі цудоўныя трагічныя і драматычныя гісторыі. Мы хацелі, каб гледачы прыходзілі і суперажывалі нам, каб мы ім падкідвалі пытанні, эмоцыі, энергію! Мы расказвалі *пра чалавека,* пра тое, што з ім адбываецца. Мы змаглі б сёння пра тое самае расказваць? Не. Тыя, хто застаўся, нам успаміналі вайну, як у той час тэатр быў у эвакуацыі, як выязджалі на фронт акцёрскія брыгады… Дык мы і сёння – як на вайне! Але ж на нас ніхто з-за мяжы не напаў... Таму сёння я не магу трымацца за сваю прафесію, за кар’еру, за ролі. Чалавечая годнасць вышэй.

**– У Гродзенскім драмтэатры таксама звальняюць акцёраў, што ўдзельнічалі ў акцыях пратэсту. Што вы можаце параіць калегам?**

– Мы стараемся іх падтрымаць, там, праўда, больш складаная сітуацыя. Дырэктар Гродзенскага драмтэатра – далёка не Павел Латушка… А артысты там цудоўныя, нашы сябры. Што параіць? Не баяцца – гэта галоўнае.

**– Міністэрства культуры нібыта збіралася здаваць вам залу Купалаўскага ў арэнду, каб тэатр не прастойваў. Што з гэтым чуваць?**

– Так, мы хацелі арганізаваць нейкія выступленні – урыўкі са спектакляў, песні, вершы, усё спакойна, без заклікаў. Паехаць па краіне… Нам не далі гэта зрабіць. У Мінкульце сказалі, што каранавірус перашкаджае.

**– Кіеўскі тэатр імя Івана Франка запрашаў вас адзначыць 100-годдзе ў іх. Паедзеце?**

– Думаю, што нешта з гэтага атрымаецца. Мы вельмі ўдзячныя ўкраінскім сябрам за такі жэст салідарнасці. Мы сябруем даўно, яны прыязджалі да нас на гастролі, мы ездзілі да іх.

**– Да слова, вы ж яшчэ і заслужаная артыстка Аўтаномнай Рэспублікі Крым. Крымскія ўлады так вас заваблівалі ездзіць да іх адпачываць?**

– Не, мы вазілі ў Крым (украінскі!) свой спектакль “Ідылія”, калі там праходзіла дэкада беларускага мастацтва. І крымчакам так спадабалася, што мяне нават запрашалі застацца ў Сімферопалі, працаваць у мясцовым тэатры. Разам з сям’ёй, абяцалі вялікую кватэру. І, нягледзячы на маю адмову, далі званне заслужанай, здаецца, яшчэ камусьці... Даўно ўжо я там не была, цяпер і не з’ездзіш, я ж не “крымнашыстка”. Тое, што Расія зрабіла ва Украіне, гэта проста жах!

**– Амаль дваццаць гадоў вы былі Паўлінкай, гэта самая вядомая ваша роля. У купалаўскай камедыі безліч розных прыказак, трапных выразаў, што сталі крылатымі. Якія-небудзь увайшлі ў ваш жыццёвы лексікон?**

– Безумоўна. І “тудэма-сюдэма”, і “дзве дзюркі ў носе і скончылося”… Паўлінка – мая першая роля ў Купалаўскім, я яшчэ была студэнткай 4-га курса. Гэта была адказнасць неверагодная! Па дарозе на рэпетыцыі я трэслася ўся, у мяне дыханне замірала і сэрца калацілася. А якія партнёры ў мяне былі! Галіна Макарава, Павел Кармунін, Здзіслаў Стома, Уладзімір Уладамірскі, Генадзь Аўсяннікаў, дзядуля іграў Пустарэвіча. А я прыйду і ўсё спаскуджу… Я так хвалявалася, што на прэм’еры забылася клункі выкінуць за акно, калі да Якіма ўцякала. А гэта ж сюжэтастваральны эпізод! І Генадзь Сцяпанавіч Аўсяннікаў выручыў мяне, выкінуў той клунак, ніхто і не заўважыў. Акцёры яны такія – умеюць выкручвацца.

**– У адным са спектакляў вы з дачкой выконваеце ролі сясцёр (яна, дарэчы, таксама сышла з тэатра). Каб іграць у такім дуэце, трэба як мінімум умець не старэць. Адкрыйце сакрэт: як вам гэта ўдаецца?**

– Ды няма ніякага сакрэту. Я так мяркую: мы нараджаемся з пэўным абліччам, нам яно дадзена – прыгожае, смешнае, рознае. А з гадамі тое, чым чалавек сябе напаўняе, адбіваецца на яго твары. Дабрыня і мярзота – усё адлюстроўваецца. Таму я проста стараюся быць харошым чалавекам. Не рабіць паскудстваў, думаць аб прыгожым, любіць усіх стараюся. Не заўжды, праўда, атрымліваецца...

**– А басейн, а фітнес-залы, а трэнажоры?**

– Мне на гэта часу не хапае. У мяне быў любімы тэатр, былі студэнты, а я ж яшчэ маці і жонка і люблю, каб дома ў мяне заўсёды быў парадак, смачны абед. Таму прабежкі ў мяне былі хіба ад тэатра да акадэміі, ад акадэміі да тэатра, па сцэне і дома з пыласмокам. І яшчэ жыў у нас сабака – наша Груша, памерла сёлета, з ёй уся сям’я бегала. Ну і стараюся жэрці паменш. Вось і ўсё.

**– Пра аднаго знакамітага артыста хадзіла эпіграма: “Вось таму ён і народны, што народу непрыгодны”. Дзякуй вам за тое, што з годнасцю носіце гэтае званне, паказваеце прыклад прафесійнай мужнасці і чалавечай годнасці!**

– Дзякуй за добрыя словы! У нас усё атрымаецца. Ва ўсіх беларускіх казках, якія мой дзядуля чытаў на радыё (яны ўвайшлі ў залаты радыёфонд), дабро заўжды перамагае зло. Заўжды! Пераможа і ў Беларусі. Ведаю, што і “Народнай Волі” сёння няпроста. Будзем трымацца, будзем адзін аднаго падтрымліваць. І рабіць усё магчымае для перамогі над злом, толькі тады мы зможам убачыць сонца ў нашым аконцы!

**Міхась СКОБЛА.**

РЭЗАНАНС

# Сяргею Сташэўскаму не ўдалося адседзецца на лецішчы…

Кіраўнік адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Віцебска **Сяргей Сташэўскі**, які 9 жніўня прымусіў падліковую камісію на выбарчым участку №25 сфальсіфікаваць выніковы пратакол, у рэшце рэшт мусіў пакінуць сваю пасаду.



Пра антызаконныя дзеянні былога чыноўніка “Народная Воля” пісала двойчы – 14 і 21 жніўня. У адной з публікацый (“Хто супыніць дзікае паляванне караля Страху?”) дырэктар віцебскай СШ №44 Сяргей Піталенка (ён старшыняваў у названай камісіі) расказаў, як С.Сташэўскі ажыццяўляў ціск на камісію і персанальна на яго. У выніку праўдзівы пратакол, паводле якога на ўчастку №25 перамагла С.Ціханоўская, быў знішчаны, а замест яго сфабрыкаваны новы – з “пераможцам” А.Лукашэнкам.

Схоплены за руку вертыкальшчык неўзабаве пасля выбараў сышоў у адпачынак, звязацца з ім было немагчыма. Яго сакратарка спачатку тлумачыла, што начальнік “в заслуженном отпуске”, а потым – што адсутнічае на працоўным месцы. Так цягнулася паўтара месяца. Але падобна на тое, што адседзецца на лецішчы чыноўніку не ўдалося. З 1 кастрычніка, як паведамілі “Народнай Волі” ў адміністрацыі Кастрычніцкага раёна, ён пакінуў свой кабінет. Персанальныя дадзеныя С.Сташэўскага больш не значацца ў раздзеле “Кіраўніцтва” на выканкамаўскім сайце.

Раней кіраўнік Віцебскай вобласці **Мікалай Шарстнёў** заяўляў, што ў дачыненні да Сташэўскага праводзіцца службовая праверка. Яе вынікі дагэтуль невядомыя. Як не вядома і тое, ці ўзбуджана супраць яго крымінальная справа, – па сутнасці, як вынікае з аўдыёзапісу, ён прымусіў членаў камісіі сфальсіфікаваць выніковы пратакол галасавання, а гэта не што іншае, як злачынства.

Зняты з пасады вертыкальшчык адзінаццаць гадоў таму быў пераведзены у Віцебск з пасады памочніка віцэ-прэм’ера ўрада. Меў планы вярнуцца ў сталіцу, відаць, на больш высокую пасаду. Пра гэта ён сам заяўляў на аўральным пасяджэнні выбарчай камісіі 9 жніўня. Цяпер планы, мабыць, давядзецца памяняць…

“Народная Воля” будзе сачыць за далейшым лёсам чыноўніка, дзеянні якога падчас прэзідэнцкіх выбараў набылі крымінальную афарбоўку.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

НЕСКАРОНЫЯ

# Вольга СЕВЯРЫНЕЦ: «Павел рыхтуецца да горшага...»

*Жонка палітвязня Паўла Севярынца распавяла "Народнай Волі" апошнія навіны пра мужа, якога не так даўно наведала адвакат.*

– Ясная справа, што ў Паўла асаблівых навін няма, ён толькі пытаецца, што ў нас адбываецца, – *гаворыць Вольга Севярынец*. – Адвакат наведвае яго раз на два-тры тыдні, каб распавесці яму пра апошнія падзеі на волі.

Тыдзень таму мне званіла новая следчая, шукала нумар Пашынай адвакаткі. Спачатку ягоную крымінальную справу вёў мужчына, а цяпер патэлефанавала жанчына, прадставілася следчай, прозвішча назвала, але я не запомніла. Толькі запыталася: відаць, рыхтаецца новы допыт Паўла? Яна адказала, што так. Але адвакату ніхто пакуль не паведамляў пра новыя следчыя дзеянні.

**– Лісты ад Паўла даходзяць?**

– Так, просіць мяне "Беларусалімам" займацца, кнігі прадаваць. У лістах больш просьбаў ад яго, пра сябе і пра ўмовы ўтрымання ён ніводнага сказа не піша! Ведаю, што ў камеры ён да нядаўняга часу быў з мужчынам, які чакае дэпартацыі.



У адным з лістоў пісаў, што яны нават лячыліся разам, бо Паша моцна застудзіў суставы, калі яго пакінулі без абутку, які недзе згубіўся. І, як я зразумела, лекаванне не асабліва дапамагае, бо ён ужо, здаецца, больш за месяц лечыцца, а боль у каленях не знікае.

Прасіў кавы яму перадаць, але, як я зразумела, не для сябе, бо ён такі тып кавы не п'е. І канвертаў для замежжа яшчэ прасіў, бо з-за мяжы яму нават пішуць. Увогуле, яму перадалі каля 40 лістоў напрыканцы верасня, ён на кожны адказвае. І я ведаю, што прынамсі да нашых сяброў гэтыя лісты даходзяць.

Яшчэ піша, што наша расстанне з ім будзе не надта доўгім, але і не кароткім. Ён мяркуе, што пасядзець яму прыйдзецца. Піша, што рыхтуецца да горшага, каб потым жыццё было прыемным сюрпрызам. Ну а як яно будзе – ніхто не ведае.

**– А пад заклад не спрабавалі яго вызваліць?**

– Трэба будзе паразмаўляць з адвакатам. Але сумняваюся, што гэта спрацуе.

Дарэчы, Павел просіць, каб да яго пусцілі святара. Але пакуль адмаўляюць – маўляў, каранавірус. Але ж адвакат да яго ходзіць, чаму святар тады не можа наведваць зняволеных, прадпрыняўшы адпаведныя меры бяспекі? Магчыма, сітуацыя зменіцца...

АСАБІСТАЕ

# «Мой беларускі Джэймс Бонд...»

– Я ведала, што Павел будзе маім мужам.

Калі мы пазнаёміліся, мне было 17 год. Сябар, які здымаў з ім кватэру, запрасіў у госці глядзець "Плошчу", і я ўбачыла Пашу. Добра памятаю гэты момант і яго вочы. Відаць, у іх усё тады можна было ўгледзець усё наша жыццё...

Лёс гарачымі кропкамі расстаўляе акцэнты кахання. Здаецца, у жыцці так і не бывае – гэта ж кніга, раман! І наступную старонку перагарнуць, то зацінае дых ад шчасця, то ад болю.

Расстанне спачатку лічыш гадзінамі, днямі, пасля месяцамі, камусьці давялося лічыць гадамі. 100 дзён. Зноў проста быць побач уяўляецца чымсьці нерэагодным. Прыйшла любоў доўгацярплівая.

Успаміны ўцякаюць. У грудзях дзірка з палову душы. Здаецца, адной думкай можна разбурыць бетонныя сцены турмы. Каханне – гэта выбар. Я выбіраю кахаць.

Сілюся ўзгадаць самы шчаслівы дзень у нашых стасунках – вянчанне, нараджэнне дзетак? А перад вачамі момант, калі ён вяртаецца дадому. Я пазнаю яго па кроках, адчыняю дзверы – і вось ён ідзе.

Самыя ўтульныя сямейныя вечары перад "суткамі". Добра, калі ёсць да каго вяртацца, добра, калі ёсць каго чакаць.

Я заўсёды мушу быць гатовай сказаць яму: "Ідзі". Я хачу зразумець яго адказнасць і ахвярнасць. У маім каханні мне хочацца набыцца з ім удосталь, у маім каханні мне трэба быць гатовай адпусціць яго. Яго душа – гэта мая душа.

Ад моманту нашай першай сустрэчы да вянчання прайшло пяць год. Я слухала Пашын голас з праграмы Свабоды ў слухаўках, гуляючы па Свіслачы, ён сядзеў у "амерыканцы". Дзівоснае адчуванне – разумець, што дзесьці ёсць чалавек, якому наканавана быць часткай тваіго жыцця.

Тры гады "хіміі" ў Купліне. У закратаваным інтэрнаце на другім паверсе была Пашына "камера" – пакой з двухʼярусными ложкамі, малюсенькі стол. Месца зняволення, а ўспаміны ўтульныя – суровая турэмная рамантыка. Аднойчы прыехала, адчыніліся рыпучыя дзверы ў пакой назіральніка, паварочваюся, а Паша стаіць у белай кашулі, чорных акулярах і... без вусоў. Мой любімы беларускі Джэймс Бонд...

Прапанова на Плошчы Волі пад званы храма. Заручальны пярсцёнак. Вянчаліся зімой, праз тры месяцы пасля вызвалення з "хіміі". 11 студзеня. Елкі з сінімі гірляндамі ля алтара. Поўны касцёл сяброў. У здымнай кватэры, дзе мы жылі першы час, ад гаспадароў засталася карціна, такая ж, як вісела ў куплінскім пакоі, – "Маленне аб чашы". Хай будзе воля Твая...

Праз год нарадзіўся Янка. Залаты хлопчык. Ён паміраў у шпіталі побач, а Паша запальваў пад вокнамі радзільні агенькі, пускаў начную феерверкі, застаўляў усё кветкамі і пішоў на ўсю ноч сядзець у холе лякарні, каб быць бліжэй да маленькага. Чарговая гарачая кропка кахання.

"Што такое жыццё ваша? Пара, якая зʼяўляецца на кароткі час, а потым знікае".

Каханне спее ў штодзённасці, загартоўваецца ў выпрабаваннях, дасканаліцца. Што я яшчэ магу зрабіць для цябе проста зараз? "А давай мандарынку на двaіх?" У Бога – чым далей, тым лепш, значыць, няма межаў шчасцю. Бяры колькі хочаш. А зараз чакай.

І мы чакаем – ужо не толькі каханага мужа, але і тату, які падкідае да самай столі, бясконца выдумвае гульні, навучыць маліцца. Францішак, сурʼёзна, гледзячы татавым позіркам, просіць перадаць яму ў лісце "Зыве Беўаусь!". Канечне жыве, Францішак, і будзе жыць!

Бог вядзе нас Сваім шляхам, і мы ідзём. Я ўдзячная, што магу ісці побач з Пашам. 7 год. "Пячаткай пакладзі мяне на сэрца сваё, пакладзі на рукі, як пярсцёнак". Напоўненыя дабраславеннем дні. Кожнаму патрэбны чалавек, які заўсёды будзе на тваім баку.

Бог ужо вызначыў той дзень, калі мы ўбачымся зноў.

І дзень, калі мы пераможам, таксама...

Адвакат гаворыць, што Павел выглядае бадзёра, жартуе, а яшчэ як можа беларусізуе тых, хто працуе ў следчым ізалятары. Калі раней ён быў лысы, бо пагаліўся, то цяпер і валасы ўжо адраслі...

**– Ведаю, што вы з сынам вярнуліся ў Мінск літаральна за дзень да таго, як даведаліся, што вашы бацькі захварэлі на каранавірус...**

– Так, гэта праўда. Калі хто хоча ехаць на Нарач у санаторый, то не рэкамендую.

**– Вашы бацькі не ў шпіталі?**

– Пакуль не, і іх нават на КТ да нядаўняга часу не маглі адправіць. Выслалі ім пульсаксіметр, каб за кіслародам сачылі. Але я ведаю, што на Нарачы былі выпадкі, калі людзі бышцам бы папраўляліся і адчувалі сябе адносна нармальна, і тэмпературы ў іх не было, але КТ паказвала пнеўманію. Таму трэба берагчыся!

Марына КОКТЫШ.

НОВЫЕ ИМЕНА

# Белоруска Дарья Васильева победила на фестивале документального кино в Смоленске

*«Евразия.doc: 4 минуты» – это конкурс, направленный на поддержку молодых людей, которые снимают документальные фильмы на стыке журналистики, социального активизма и кинематографа. Такое кино рассказывает, как конкретные люди сами решают непростые социальные проблемы.*

Главной темой фестиваля в этом году стало 75-летие Победы в Великой Отечественной войне, а основной задачей – противодействие попыткам искажения и пересмотра общей истории. Также в конкурсную программу вошли фильмы, которые рассказывали о борьбе человечества с коронавирусом и героической работе медиков. Главным критерием отбора картин стало освещение и авторская интерпретация событий, влияющих на общественно-политическую жизнь стран СНГ.

Среди победителей оказалась белоруска, выпускница Института бизнеса БГУ **Дарья Васильева**, которая заняла третье место в номинации «Лучший фильм о народной памяти» с картиной «Девочка, прошедшая войну»:

*– До «Евразии.doc» я участвовала в конкурсе видеороликов «БГУ в твоем формате», где стала победительницей. После этого решила, что можно участвовать в масштабных фестивалях, и отправила свою работу на «Евразия.doc: 4 минуты». На создание такого короткометражного фильма меня вдохновило стихотворение о войне. В наше непростое время очень важно сохранить общую для всех постсоветских стран историческую память о Великой Победе. Снимали, кстати, на Линии Сталина, а актерами стали мои знакомые. Переживали, что плохо получатся, а вышло отлично.*

Для участников и гостей были предусмотрены «круглые столы», встречи с авторами картин, открытые дискуссии и мастер-классы с участием известных журналистов и документалистов стран Содружества и дальнего зарубежья.

Председатель жюри молодежного конкурса короткометражных фильмов «Евразия.doc: 4 минуты» кинодокументалист Константин Семин поделился своим впечатлением:

*– Четыре фильма-победителя* (третье место разделили два фильма. – **Ред.**) *по своему профессионализму, качеству исполнения и цельности замысла настолько сильно выделялись, отличались от других работ, не в обиду им будь сказано, что больших споров не было и быть не могло. Мы были полностью единодушны в выборе призовых картин. Обсуждали только то, как распределить места между ними.*

Фира РАЗУМОВСКАЯ.



ПОСТАЦІ

# Браты-асветнікі – наш нацыянальны гонар

За апошнія два стагоддзі ў некалькіх беларускіх родах зʼявіліся на свет браты, якія пакінулі значны след у гісторыі нашай краіны. Лічу, што кожны настаўнік гісторыі, беларускай мовы і літаратуры павінен ведаць іх прозвішчы і тое, што яны зрабілі для Радзімы. Яны вядомы не толькі як навукоўцы, дзеячы культуры, але і як актыўныя грамадскія асобы. На жаль, лёс братоў Цвікевічаў, Лёсікаў і Луцкевічаў незайздросны – яны сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій.

Запомніце прозвішчы і імёны братоў-асветнікаў, якія зʼяўляюцца нашым нацыянальным гонарам. У дужках пазначаны год іх нараджэння.

**БАСАЛЫГІ Дзмітрый** (1884) і **Канстанцін** (1887). Месца нараджэння – вёска Варкавічы Слуцкага раёна.

**БАСАЛЫГІ Уладзімір** (1940) і **Міхаіл** (1942). Месца нараджэння – г.Слуцк.

**ГАРАЎСКІЯ Апалінар** (1833), **Іпаліт** (1828) і **Гілярый** (1847). Месца нараджэння – маёнтак Уборкі Ігуменскага павета.

**ГАРЭЦКІЯ Гаўрыла** (1900) і **Максім** (1893). Месца нараджэння – вёска Багацькаўка Мсціслаўскага раёна.


Тадзік, Юрка і Вацік Іваноўскія.


Адам Станкевіч.


Антось і Ян Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі.


Аляксандр Цвікевіч.

**ГІЛЕВІЧЫ Ніл** (1931) і **Мікола (ГІЛЬ)** (1936). Месца нараджэння – вёска Слабада Лагойскага раёна.

**ГРЫЦКЕВІЧЫ Анатоль** (1929) і **Валянцін** (1933). Месца нараджэння – г.Мінск.

**ДЫБОЎСКІЯ Бенядзікт** (1833) і **Уладзіслаў** (1838). Месца нараджэння – маёнтак Адамарын Вілейскага павета.

**ЕЛЬСКІЯ Міхаіл** (1831) і **Аляксандр** (1834). Месца нараджэння – вёска Дудзічы Пухавіцкага раёна.

**ІВАНОЎСКІЯ Вацлаў** (1880), **Тадэвуш** (1882) і **сястра Алена** (1885). Месца нараджэння – фальварак Лябёдка на Шчучыншчыне.

**КАЛІНОЎСКІЯ Віктар** (1833) і **Кастусь** (1838). Месца нараджэння – вёска Мастаўляны Гродзенскага павета, цяпер Беласточчына.

**КАСОВІЧЫ Ігнацій** (1808) і **Каэтан** (1814). Месца нараджэння – г.Полацк.

**ЛАСТОЎСКІЯ Вацлаў** (1883) і **Юстын** (каля 1870). Месца нараджэння засценак Калеснікаў, цяпер Глыбоцкі раён.

**ЛЁСІКІ Язэп** (1883) і **Антон** (1872). Месца нараджэння – вёска Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна.

**ЛУЦКЕВІЧЫ Іван** (1881) і **Антон** (1884). Месца нараджэння – г.Шаўляй, Літва.

**ЛЫЧЫ Лявон** (1929) і **Генадзь** (1035). Месца нараджэння – мястэча Магільная Уздзенскага раёна.

**МІЦКЕВІЧЫ Кастусь** (1882) і **Міхась** (1897). Месца нараджэння – вёска Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна.

**САЧАНКІ Барыс** (1936), **Іван** (1938) і **Алесь** (1940). Месца нараджэння – вёска Вялікі Бор Хойніцкага раёна.

**СТАНКЕВІЧЫ Адам** (1892) і **Ян** (1891). Месца нараджэння – вёска Арляняты Смаргонскага раёна.

**СТАПОВІЧЫ Альбін** (1894) і **Кастусь** (1934). Месца нараджэння – вёска Барані Астравецкага раёна.

**ТЫШКЕВІЧЫ Канстанцін** (1806) і **Яўстах** (1814). Месца нараджэння – мястэчка Лагойск.

**ХЛЯБЦЭВІЧЫ Яўген** (1884) і **Уладзімір** (1894). Месца нараджэння – мястэчка Жыровічы Слонімскага павета.

**УРУБЛЕЎСКІЯ Жыгімонт** (1845), **Эдуард** (1848) і **Валера** (1836). Месца нараджэння Жыгімонта і Эдуарда – Гродна, а Валеры – мястэчка Жалудок Лідскага павета.

**ХОДЗЬКІ Аляксандр** (1804), **Міхал** (1808). Месца нараджэння – мястэчка Крывічы Вілейскага павета.

**ЦВІКЕВІЧЫ Аляксандр** (1888) і **Іван** (1891). Месца нараджэння – г.Брэст.

**ЦІХАНОВІЧЫ Валянцін** (1909) і **Яўген** (1911). Месца нараджэння – станцыя Джусалы, Казахстан.

**ЯНУШКЕВІЧЫ Адольф** (1803) і **Яўстаф** (1805). Месца нараджэння Адольфа – г.Нясвіж, а Яўстафа – вёска Прусы Салігорскага раёна.

**ЯНУШКЕВІЧЫ Фелікс** (1954), **Язэп** (1959) і **Валяр'ян** (н. 1962). Месца нараджэння – мястэчк Ракаў Валожынскага раёна.

Падборку падрыхтаваў Сымон БАРЫС.

САЛІДАРНАСЦЬ

# «Лене з яе ростам у камеры будзе няпроста...»

*Вядомыя ў Беларусі прадстаўнікі спартыўнай грамадскасці вырашылі праз "Народную Волю" падтрымаць баскетбалістку Алену Леўчанка, якая зараз адбывае пакаранне ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна.*

Нагадаем: 30 верасня спартсменка была арыштавана на 15 сутак за ўдзел у "*несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве*".

Алена Леўчанка выступала за зборную з 2001 года, двойчы гуляла ў складзе нацыянальнай каманды на Алімпійскіх гульнях. У свой час згуляла ў фінале жаночай НБА, а таксама прызнавалася лепшай цэнтравой чэмпіянату свету.

**Аляксандр КУЛЬ, чатырохразовы чэмпіён Беларусі па баскетболе:**



– Кожны дзень пераконваюся, што жыву ў краіне цудаў, – дно прабіваецца рэгулярна, і гэтаму працэсу не бачна ні канца ні краю. Арышт Алены – з гэтай жа оперы. Досыць вядомага ва ўсім свеце чалавека адправілі за краты толькі за тое, што ён кажа праўду і мае галаву не толькі для таго, каб у яе есці і каб туды загружалі выключна "правільныя" думкі.

Тую сітуацыю, у якой апынулася Лена Леўчанка, пазітыўнай ніяк не назавеш, але, як кажуць, не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло. Таму ў самай негатыўнай сітуацыі можна знайсці пэўны пазітыў. Паводле сведчанняў тых, хто ўжо пабываў у ізалятары, у камеры людзі заводзяць новыя цікавыя знаёмствы, чалавечая салідарнасць становіцца яшчэ больш моцнай.

Думаю, для тых, хто адбывае пакаранне ў адной камеры з Аленай Леўчанка, за гонар быць "на сутках" у такой кампаніі.

Але мяне хвалюе іншы момант. Мой рост – 2 метры 13 сантыметраў, рост Алены – каля двух метраў. І я ведаю, што чалавеку з такім ростам будзе ў камеры няпроста, бо, відаць, ніхто адмыслова для яе ўмовы там ствараць не будзе. Але ўпэўнены: яна і гэта вытрымае.

**Вадзім КРЫВАШЭЕЎ, экс-кіраўнік Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па фрыстайле:**



– Зараз у краіне адбываюцца жудасныя рэчы, якія не падаюцца ніякай логіцы.

Безумоўна, падтрымліваю Лену Леўчанка, меў магчымасць з ёй пазнаёміцца падчас Алімпіяды ў Бразіліі. Хачу сказаць, што гэта чалавек з такім жалезным характарам – і на спартыўнай пляцоўцы, і ў жыцці, – што зламаць яе не ўдасца нікому. Гэта самы сапраўдны лідар, а таму, відаць, па лідарах і вырашылі біць.

Спартсмены заўсёды былі адной вялікай сям'ёй, і было б лагічна, калі б сёння ўсе адзіным фронтам выступілі ў падтрымку Алены. На жаль, гэтага няма, хаця і асуджаць людзей не магу. Многія думаюць найперш пра сваю сям'ю, блізкіх, а таму і маўчаць. Хаця не выключаю, што ў душы яны і Лену Леўчанка падтрымліваюць, і разумеюць, што адбываецца ў краіне.

**Дзяніс РУТЭНКА, былы гулец зборнай Беларусі па гандболе:**



– Тое, што вядомая ва ўсім свеце спартсменка трапіла за краты, для мяне не стала нечаканасцю. Праўда, дзіўна, што аж на 15 сутак ізалявалі, бо чалавек ніякіх супрацьпраўных дзеянняў не рабіў.

З іншага боку, і здзіўляцца не варта, бо закон у нашай краіне не сёння выкінулі ў сметніцу, і зараз сілавікі паказваюць, што ім напляваць на твае тытулы і званні, а таму дзейнічаюць максімальна жорстка. На жаль, у такой сітуацыі нават адвакаты нічога не могуць зрабіць.

Лена Леўчанка, безумоўна, вядомы ва ўсім свеце чалавек, яе арышт выкліча рэзананс не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім свеце. Але ўлады ўжо настолькі сапсавалі свой імідж, што для іх не важна, адным вядомым чалавекам за кратамі больш альбо менш.

Але спартсмены – людзі загартаваныя, не праз такія выпрабаванні праходзілі.

**Алесь СІВЫ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Михаил РАБИКОВСКИЙ: «Главный тренер мужской сборной – в реанимации»

*Председатель Белорусского тяжелоатлетического союза рассказал «Народной Воле» о том, кто сейчас готовит мужскую команду к Олимпиаде, и о таинственном исчезновении Андрея Арямнова.*

– К несчастью, у главного тренера мужской сборной Виктора Шершукова очень серьезные проблемы со здоровьем, сейчас он находится в реанимационном отделении больницы в Боровлянах, – *говорит Михаил РАБИКОВСКИЙ*. – Пока исполняет обязанности главного тренера Михаил Солодарь, а дальше посмотрим, как будет складываться ситуация.

**– Михаил Николаевич, не так давно прошел чемпионат Беларуси по тяжелой атлетике, но на нем не выступал Андрей Арямнов, хотя ранее он заявлял, что планирует участвовать в этих соревнованиях. Куда исчез олимпийский чемпион?**

Михаил Рабиковский (слева) и Андрей Арямнов.

– Накануне первенства Андрей и на самом деле подтвердил мне свое выступление. Сказал так: «Возможно, покажу не самые высокие результаты, но проверить себя надо». В итоге Арямнова на чемпионате никто так и не увидел, на взвешивание он не пришел.

Не хочешь выступать – не обещай. Собрался пропустить чемпионат – цивилизованно предупреди и объясни причину своего неучастия. Но практически никаких объяснений со стороны Андрея не последовало.

Плохо, конечно. Столько тренироваться – и не показать итог. Я понимаю, что сложно набирать три пика формы за сезон, но, повторюсь, между людьми должен быть цивилизованный диалог, а не ребячество. Я все-таки надеюсь, что Арямнов соберет волю в кулак и продолжит работать.

**– Он ведь в сборной один из претендентов на единственную путевку для мужчин на Олимпиаду в Токио?**

– Безусловно, хотя всего на эту путевку претендуют четыре человека. Если к весне следующего года коронавирус отступит и состоятся какие-то международные турниры, то уже на них будем проверять возможности и физическую форму каждого.

Но сегодня сказать, кто наиболее вероятный претендент на Игры, абсолютно невозможно. Нужно будет определяться ближе к Олимпиаде.

**– Федерация будет каким-то образом наказывать Андрея Арямнова за неучастие в чемпионате Беларуси?**

– Сначала хотелось бы выслушать Андрея, а уже затем принимать какие-то решения. Самое главное, чтобы он понял: нельзя подводить людей. А я всегда готов выслушать спортсмена и пойти ему навстречу.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

АЎКЦЫЁН

# За колькі можна купіць касцюм Аляксандры Герасімені?

*На 5 кастрычніка ён каштаваў каля 3000 долараў.*

Вядомая беларуская плыўчыха Аляксандра Герасіменя таксама падала лот на аўкцыён у дапамогу пацярпелым спартсменам.

На продаж спартсменка выставіла свой спартыўны касцюм, у якім яна атрымлівала медаль падчас цырымоніі ўзнагароджвання на Алімпіядзе-2016 у Рыа, і ў дадатак – фотакартку з аўтографам.





*"Я, уладальніца двух сярэбраных і бронзавага медалёў Алімпійскіх гульняў, чэмпіёнка свету і Еўропы, у святле апошніх падзей у Беларусі хачу звярнуцца да міжнароднай спартыўнай грамадскасці і маіх калег-спартсменаў,* – кажа **Аляксандра Герасіменя**. – *Наш народ масава пратэстуе супраць рэжыму дыктатуры, мірныя пратэсты праходзяць па ўсёй краіне. Студэнты, жанчыны, бізнесмены і рабочыя, спартсмены і IT-спецыялісты, моладзь і старыя – усе выходзяць на вуліцы. Сёння мы абараняем ужо не толькі сваю свабоду і будучыню, гаворка ідзе пра жыццё і бяспеку нашых дзяцей.*

*Людзі ва ўсім свеце ўбачылі, што рэжым у Беларусі гатовы ўтапіць народ у крыві, толькі б захаваць сваю ўладу. Сотні людзей пацярпелі ад гвалту з боку праваахоўных органаў. За ўсе дні пратэсту былі затрыманы больш за 12.000 чалавек. Людзей збівалі, катавалі, здзекаваліся з іх.*

*Спартсменаў і работнікаў спартыўнай галіны прымушаюць маўчаць. За выказванне грамадзянскай пазіцыі, асуджэнне гвалту і палітычных рэпрэсій людзей звальняюць, на іх аказваецца ціск з боку кіраўніцтва. Спартсменаў выключаюць са складу нацыянальнай каманды, пагражаюць забаронай на ўдзел у нацыянальных і міжнародных спаборніцтвах, Алімпійскіх гульнях.*

*Але разам беларусы ўсвядомілі, наколькі яны моцныя. Больш за 650 беларускіх спартсменаў падпісалі адкрыты зварот да ўлад з патрабаваннем спыніць гвалт у краіне.*

*Таксама я падала лот для аўкцыёну ў дапамогу пацярпелым спартсменам! Гэта мой касцюм з цырымоніі ўзнагароджвання на Алімпіядзе-2016 ў Рыа і фотакартка з аўтографам.*

*Бронза ў Рыа была для мяне адной з самых важных перамог у кар'еры, той сезон даўся мне вельмі цяжка. Ніхто не верыў, што я змагу ўзяць медаль. Але гэта дапамагло мне яшчэ мацней матываваць сябе! Заваяваўшы медаль, я ў першую чаргу даказала сабе, што я ўсё змагу, калі моцна захачу!"*

Усе сродкі ад продажу лота будуць пералічаны ў Беларускі фонд спартыўнай салідарнасці, які аказвае матэрыяльную і маральную падтрымку пацярпелым за сваю грамадзянскую пазіцыю спартсменам.

Аўкцыён стартаваў 27 верасня, першапачатковая цана касцюма была 119 долараў. На 5 кастрычніка яго кошт дасягнуў амаль 3000 долараў. Аўкцыён працягнецца да 7 кастрычніка.

Нагадаем, што Аляксандра Герасіменя не першая спартсменка, хто выстаўляе сваю атрыбутыку на аўкцыён. Напрыклад, красоўкі вядомай баскетбалісткі Алены Леўчанка, якая зараз адбывае пакаранне ў ізалятары на Акрэсціна, былі прададзены за 2700 рублёў, хаця іх першапачатковы кошт быў усяго 115 рублёў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КРЫЖАВАНКА

# «А вяселейка, а вяселейка...»

*Прысвячаецца беларускаму вяселлю. Кастрычнік у Беларусі – час вяселляў.*



**Па гарызанталі:** 1."Жані мяне, ..., // Жані маладога, // Да майго вяселля // Ужо ўсё гатова" (прыпеўка). 7."А ў нашага свата // На падпорах ... . // Вакол хаты – зелле, // А ў хаце вяселле" (прыпеўка). 8.Беларуская багіня, апякунка шлюбаў. 9.Клопаты аб чыім-небудзь шлюбе. 12.Музычны знак у выглядзе дугі над нотамі. 13.Хоць мужык з ..., абы за ім не плакаць (прык.). 14.Языком, як ... хвастом (прык.). 15.Без прыкмет не будзе хлеба на ... (прык.). 16."... касіў, жыта жаў, // Дзевак любіў – бабу ўзяў" (прыпеўка). 17.Рысоўка (перан.). 18.Тое, што і жэмчуг (устар.). 20."Ой, я знаю, знаю, // Хто жаніцца хоча: // Ля паненак ходзіць // І, як ... , рагоча" (прыпеўка). 21.Хлебныя злакавыя расліны. 24.Пакаты спуск. 25.Ахвотнік заляцацца да жанчын. 26.Не ... ж драць, калі не хочуць браць (прык.). 27.Тады ... ажэніцца, як лысы вол аце́ліцца (прык.). 28.Настаўнік, кіраўнік (устар., іран.).

**Па вертыкалі:** 1.Тое, што і ўсмешка. 2.Старажытнаегіпецкі бог Сонца. 4.Рамка. 5."Я надзену плацце бела // І пайду з ім пад вянец. // Ссохну, звяну, як былінка, // І гульбе маёй ..." (прыпеўка). 6.Свату альбо ..., альбо кульбака (прык.). 10.Передвясельны час, калі бацькі нявесты выказвалі жаданне пазнаёміцца з сям'ёй жаніха. 11."А ... , // А ... // Едзе з песняй да сяла" – з песні "Ой, мяцеліца" (сл.А.Дзеружынскага, муз.М.Шуміліна). 17.Святыя ... пакрываюць траву лістам, зямлю – снегам, ваду – мёдам, а дзяўчат – шлюбным чэпкам (прык.). Свята ... адзначалі 14 кастрычніка. 19."Ах ты, цёшча мая, // Не хвалі сваёй дачкі: // Яе ..., як нітачкі, // Сухія кумпячкі" (прыпеўка). 22."Убярыся, бабка, // У новае ..., // Я ж цябе павяду // З сабой на вяселле" (з беларускай народнай песні "У месяцы верасні"). 23."А божа мой, божа мілы, // Нашто я жаніўся? // Узяла ... ўкусіла – // Тры гады лячыўся" (прыпеўка). 27.Кармавая надбудова судна.

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Бацька. 7.Хата. 8.Лада. 9.Сватанне. 12.Ліга. 13.Лапаць. 14.Цяля. 15.Абед. 16.Сена. 17.Поза. 18.Перл. 20.Конь. 21.Збожжа. 24.Скат. 25.Залётнік. 26.Вочы. 27 Юзік. 28.Ментар.

**Па вертыкалі:** 1.Ухмылка. 2.Ра. 4.Асада. 5.Канец. 6.Падзяка. 10.Агледзіны. 11.Вяселейка. 17.Пакровы. 19.Лытачкі. 22.Белле. 23.Жонка. 27.Ют.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

**г.Дзяржынск.**

ФУТБОЛ

# БАТЭ захоўвае лідарства

*Вынікі матчаў 25-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе:*

"Энергетык-БДУ" (Мінск) -- "Іслач" (Мінскі раён) – 1:1, "Гарадзея" – "Славія" (Мазыр) – 1:1, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Нёман" (Гродна) – 0:1, БАТЭ (Барысаў) – "Дынама" (Брэст) – 2:4, "Дынама" (Мінск) – "Віцебск" – 1:0, "Рух" (Брэст) – "Слуцк" – 5:0, "Мінск" – "Смалявічы" – 2:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Шахцёр | 25 | 15 | 4 | 6 | 54–28 | 49 |
| БАТЭ | 25 | 14 | 5 | 6 | 34–22 | 47 |
| Нёман | 24 | 13 | 7 | 4 | 43–14 | 46 |
| Тарпеда-БелАЗ | 25 | 13 | 3 | 9 | 39–35 | 42 |
| Іслач | 25 | 11 | 8 | 6 | 39–31 | 41 |
| Энергетык-БДУ | 25 | 10 | 9 | 6 | 46–27 | 39 |
| Рух | 25 | 12 | 3 | 10 | 30–22 | 39 |
| Дынама (Мн) | 23 | 12 | 2 | 9 | 43–30 | 38 |
| Дынама (Бр) | 24 | 10 | 5 | 9 | 34–35 | 35 |
| Віцебск | 25 | 7 | 10 | 8 | 24–30 | 31 |
| Мінск | 24 | 9 | 4 | 11 | 33–43 | 31 |
| Славія | 23 | 7 | 7 | 9 | 31–42 | 28 |
| Слуцк | 25 | 5 | 6 | 14 | 21–42 | 21 |
| Гарадзея | 23 | 6 | 3 | 14 | 25–45 | 21 |
| Белшына | 24 | 5 | 5 | 14 | 27–45 | 20 |
| Смалявічы | 25 | 3 | 5 | 17 | 25–57 | 14 |



Фота: rukh.by

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.).
Отпечатано в АО «Прайм Принт Москва», 141707,МО, г.Долгопрудный, Лихачевский пр-д, 5В. Подписано в печать 05.10.2020 в 17.00. Объем 4 печ. листа. Тираж 22040 экз. Заказ №2696.